# НАВІНЫ

Выданьне Арганізацыйнага камітэту.

1'1988

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

# РЭВАЛЮЦЫЯ ЗЬНІЗУ

**Васіль Быкаў,** народны пісьменьнік Беларусі:

У апошнія дні на Беларусі становіцца усё больш адчувальным імкненьне грамадскасьці да стварэньня Народнага Фронту, супраць якога з такой лютасьцю выступае беларуская бюракратыя. У гэтай сувязі камусьці можа здацца дзіўным /калі не недарэчным/ яе пачуцьцё жаху перад такой прадстаўнічай арганізацыяй, як Народны Фронт. Калі зыходзіць з бясспрэчнасьці палажэньня, што і у народу, і у яго кіраўнікоў існуе адзіная мэта -- справядлівы лад жыцьця на грунце народаўладзьдзя і дэмакратыі, -- дык паўстае пытаньне: чаго баяцца?

Аднак, трэба думаць, некаторыя маюць усе падставы асьцерагацца за ўласны лёс -- асабліва з ліку тых, хто арганізаваў і натхніў падзеі 30 кастрычніка. Цалкам можа быць, што па волі народа, выразьнікам волі якога стане Народны Фронт Беларусі, ім давядзецца разьвітацца з наседжанымі месцамі. У сьвятле гэтага факту добра бачныя адказы на многія надзённыя пытаньні нашага трывожнага часу.

/"Огонёк", №47 1988/.

**Аляксандр Жураўлёў,** доктар эканамічных навук:

У многім эканамічныя праблемы Беларусі вызначаюцца тым, што наша рэспубліка -- класічны узор пабудовы сацыялізму па мадэлі учорашняга дня. Безумоўна, калі зыходзіць з патрабаваньняў прамысловай рэвалюцыі, БССР мае разьвітую эканоміку. Але гэта адсталая эканоміка, калі ацэньваць яе па мерках навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і дасягнутых шэрагам перадавых краін тэхналогій. У выніку -- высокая доля ручной працы і адносна нізкая яе прадукцыйнасьць.

Адна з прычынаў, на мой погляд, у тым, што у нас мала цэніцца разумовая праца, бо ёй фактычна адмоўлена ў праве лічыцца прадукцыйнай сілай, якая валодае найвышэйшай эканамічнай эфектыўнасьцю. Хаця відавочна, што там, дзе спачатку думаюць, а потым робяць, якасьць выніку залежыць ад навуковай абгрунтаванасьці і разумнасьці папярэдне прынятых рашэньняў.

Што ж мы бачым у сябе ў рэспубліцы? Некалькі гадоў таму мяне уразіла такое паведамленьне у друку. Аднаго з палнотаўцау судзілі за тое, што ён уласнаручна забіў каля тысячы чалавек. Забіваў адным і тым жа спосабам: металічным стэкам раскваляваў чалавеку чэрап. Калі ў яго запыталіся, за што ён забіваў, атрымалі адказ: "Дык яны ж усе ў акулярах, інтэлігенты праклятыя!" Зьнявагі ў адрас інтэлігенцыі нашай рэспублікі, якія у апошні час прагучалі і у друку, і з вуснаў некаторых прамоўцаў, нагадалі мне пра гэтага нелюдзя. Вядома, да фізічнага вынішчэньня далёка, хоць падзеі 30 кастрычніка у раёне мінскіх Усходніх могілак істотна пахіснулі маю упэўненасьць.

Да якога ж дзікунства дайшла афіцыйная ідэалагічная служба рэспублікі, калі яна ня толькі не выкрывае амаральнасьць зьнявагаў інтэлігенцыі, але сваім маўчаньнем патурае некаторым аўтарам і прамоўцам. Замест таго, каб спыніць цемрашальскую кампанію, ідэалагічная служба знайшла сабе чарговага унутранага ворага -- БНФ "Адраджэньне", які фармуецца па ініцыятыве інтэлігенцыі з мэтаю паскорыць працэс перабудовы і аб'ядноўвае людзей незалежна ад прафесіі, нацыянальнасьці і веравызнаньня.

У такіх умовах цяжка гаварыць пра які-небудзь эканамічны і духоўны прагрэс.

**Павел Дзьмітрук,** рабочы:

Адзін з аргументаў супраць стварэньня БНФ за перабудову "Адраджэньне", які часта паўтараюць нашыя апаненты: "Ня трэба бегчы паперадзе цягніка". Маўляў, ініцыятары і усе прыхільнікі ідэі Народнага Фронту толькі падладжваюцца пад перабудову, выкарыстоўваюць яе у сваіх карысьлівых інтарэсах. А цягнік, трэба думаць, гэта партыя. Аднак ня будзем забывацца, што сёньня партбілет -- далёка не бясспрэчная прыкмета сумленнасьці і дэмакратызму. Ад імя партыі, прыкрываючыся найноўшай рыторыкай, выступаюць зараз і тыя, хто яшчэ у нядаўнім часе гаварыў зусім інакш. Яны гатовыя прынесьці у ахвяру і Сталіна, і Брэжнева, зваліць на іх усю адказнасьць, але захаваць галоўнае -- сістэму -- і ацалець самім.

Найбольш кансерватыўнае мясцовае кіраўніцтва. Пакуль у "цэнтры" гучаць заклікі адмаўляцца ад каманднa-адміністратыўных метадаў кіраваньня, ідзе змаганьне як бы са зьявао /што, безумоўна, патрэбна/, тут усё застаецца зблытаным, як каўтун: людзі, пасады, сімпатыі, даўнія сувязі. Паспрабуеш толькі зачапіць літцёра -- сьмяротна абразіш упраўдома.

У такіх варунках цяжка гарантаваць посьпех рэвалюцыі зьверху, якой, на маю думку, зьяўляецца перабудова. Без усенароднае падтрымкі, без рэвалюцыі зьнізу яна можа захлынуцца. Формаю такой рэвалюцыі зьнізу і павінен стаць Народны Фронт. Тым, хто хоча адстаяць сваю чалавечую годнасьць, дбае пра адпаведны канцу XX стагодзьдзя побыт, чыстае паветра і здароўе уласных дзяцей, трэба разьлічваць толькі на сябе. Бо інакш бюракратыя па-ранейшаму будзе памыкаць намі, як бясслоўным статкам, прыкрываць імем рабочых свае інтарэсы, карыстацца са сьпецразьмеркавальнікаў і сьпецкрамаў, пакінуўшы звычайнаму люду адзінае права -- душыцца ў чэргах.

Зьмены на вышэйшых паверхах палітычнае улады СССР заусёды цягнулі за сабою вострую крытыку папярэдняе палітыкі. Атрымліваецца, што кожнае нашае кіраўніцтва гэтак або інакш памылялася. Трэба, каб падобная гісторыя не паўтарылася ў чарговы раз. Народны Фронт павінен дапамагчы цяперашнім лідэрам дзяржавы быць дастаткова пасьлядоўнымі і не нарабіць новых памылак. І калі ўжо на самой справе параўноўваць перабудову з цягніком, дык толькі у тым сэнсе, што гэта і ёсьць ініцыятыва абуджанага народу.

**Зянон Пазьняк,** старшыня Таварыства "Мартыралог Беларусі" /фрагменты выступу 30 кастрычніка у полі пад Курапатамі/:

Нашая прэса друкуе толькі аднабаковую інфармацыю. І тое, што мы вымушаныя сабрацца тут, за горадам, у полі, сьведчыць аб пазіцыі уладаў. Яны нам нават месца каля нашых

/Працяг на стар. 5/

# МЕНСКІЯ «ДЗЯДЫ '88»

ЗАЯВА АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

30 кастрычніка 1988 года у горадзе Мінску атрады міліцыі і ўнутраных войскаў, сьпецпадразьдзяленьні, узброеныя дубінкамі, сьлезацечным газам і вадамётнай тэхнікай, разагналі шматтысячны мітынг-рэквіем памяці продкаў "Дзяды", папярэдне незаконна, без юрыдычнага абгрунтаваньня забаронены.

Было беспадстаўна затрымана больш за 70 чалавек, у тым ліку члены творчых саюзаў, прадстаўнікі прэсы, жанчыны. Ужывалася фізічная сіла і сьлезацечныя газы.

Мы ацэньваем падзеі 30 кастрычніка як непрыкрыты рэцыдыў сталіншчыны, як наступ антыперабудоўчых сіл на дэмакратыю і выказваем рашучы пратэст супраць беззаконьня і гвалту над правамі чалавека.

Загадам на разгон мітынга ўлады паказалі, што весьці дыялог з народам яны не жадаюць.

У рэспубліцы разгорнута зьняважлівая ідэалагічная кампанія супраць Таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі", Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту, патрыятычных маладзёжных аб'яднаньняў. Ідзе беспрэцэдэнтная дыскрэдытацыя творчай і навуковай інтэлігенцыі, распальваецца сацыяльная варожасьць. Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне" правакацыйна прыпісваюцца абсурдныя палітычныя намеры, людзей застрашваюць прыбалтыйскімі народнымі рухамі за перабудову, мэтанакіравана скажаючы іх дэмакратычную сутнасьць.

Мы рашуча заяўляем, што курс на распальваньне міжнацыянальнай і сацыяльнай варожасьці, які абрала сёньня ідэалагічная служба рэспублікі, мяжуе з крымінальным і палітычным злачынствам.

Выйсьце з сёньняшняга крызісу мы бачым у адкрытым дыялогу грамадскасьці з тымі кіраўнікамі, якія ўсьвядомяць, нарэшце, што перабудова не адбудзецца, пакуль да палітычнага жыцьця рэспублікі не далучацца мільёны яе жыхароў.

Кіраўніцтва, якое ўжыло сілу супраць уласнага народу, разгарнула паклёпніцкую кампанію супраць дэмакратычнай ініцыятывы, супраць інтэлігенцыі і моладзі — скампраметавала сябе і не заслугоўвае палітычнага даверу.

Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне".

## ПРА ШТО НЕ ЗАХАЦЕЛА ВЕДАЦЬ УРАДАВАЯ КАМІСІЯ

● В.СЁМУХА, перакладчык /г.Мінск,2-гі зав. Баграціёна,17-45/:

Перад галоўнай брамай могілак на Маскоўскай шашы міліцыя /ёю кіраваў палкоўнік, які назваў сваё прозьвішча, -- Срыбны/ зрабіла спробу разагнаць народ: строем урэзалася ў натоўп і пачала адціскаць і расьсякаць людзей. Пры гэтым у вочы пярэдніх міліцыянты пырскалі аэразолем, ад чаго людзі трацілі усялякую арыентацыю. Утварылася страшэнная цісканіна і вырвацца было практычна немагчыма.

Калі людзі вярталіся з разагнанага мітынгу і хацелі ўвайсьці ў горад, пачалася новая расправа. Тут ужо дубінкі, газ, закратаваныя машыны працавалі з поўнай нагрузкай. Людзей білі, пакавалі ў машыны і вывозілі. Сэнсу гэтай акцыі я дагэтуль разгадаць не магу. Гэта ўжо была адкрытая помста, а не разгон ці "прекращение" митинга". Людзі, рассыпаўшыся, кінуліся да горада праз лясок. А там ужо ішло паляваньне: міліцыя перахоплівала іх і біла, балазе, у лесе і закон лесу...

● У.ТКАЧЭНКА, асьпірант /г.Мінск,вул.Акадэмічная,3-63/:

Міліцыянты схапілі мяне, скруцілі рукі і пырснулі ў твар сьлезацечным газам, што мною потым было зазначана у пратаколе. У РАУС у адным пакоі са мной апынуліся яшчэ трох затрыманых. У аднаго былі запэцканыя на каленях нагавіцы і падбітае вока. Ён паскардзіўся, што калі яго затрымалі, то паставілі на калені і білі тварам аб зямлю. Капітан, пачуўшы гэта, прыстрашыў, што калі той будзе балбатаць, яго пакінуць у міліцыі і пакажуць, як сапраўды б"юць.

● А.ТКАЧОВА, настаўніца /г.Мінск,вул.Пушкіна,29-141/:

Раптам міліцыянт, што быў з левага боку ад мяне, пачаў пырскаць людзям у твар з ярка-чырвонага балёнчыку. Моцна апякло твар, пацяклі сьлёзы, стала цяжка дыхаць. Людзі закрычалі: "Сьлезацечны газ!" Гэтая вадкасьць трапіла ў вочы мне, Л.І.Міронавай і большая доза З.С.Пазьняку.

● М.АРЭШКАЎ, інжынер /г.Мінск,вул.Карбышава,1,к.1-56/:

Група невядомых у цывільным зьнянацку схапілі мяне за рукі і пацягнулі ў машыну. Я упіраўся і ня лез. У гэты час мяне некалькі разоў ударылі па нагах, руках, верхняй частцы цела. Засталіся сінякі, аб чым пазьней быў складзены акт судова-медыцынскай эксьпертызы /1.XI.88/ і была пададзеная скарга ў Першамайскую пракуратуру /6.XI.88/.

● І.МАТУЗАЎ, рабочы /г.Мінск,вул.Пензенская,57-1/:

Бачыў, як маладога чалавека, якога цягнулі да машыны, моцна стукнулі па сьпіне. Бачыў, як нейкую жанчыну сярэдніх гадоў валаклі два курсанты міліцыі. Яна ўзьняла лямант. І тады адзін з курсантаў ударыў яе кулаком.

● Г.ЛОЙКА, скульптар /г.Мінск,вул.Кнорына,10а-14/:

Да мяне падбеглі трое ў міліцэйскай форме, заламалі мне назад рукі і сталі пхаць да машыны. ...У машыне працягваліся зьдзекі. Міліцыянты вычвараліся ў жорсткасьці. У дадатак на мяне ўвесь час сыпаліся грубыя абразы.

--И откуда вы такие националисты взялись, кто это вам внушил? Говори, кто?! -- і пры гэтым мне здушвалі горла і заломвалі руку.

--Я з вамі буду размаўляць толькі тады, калі вы назавяце свае імёны.

--На твоей могиле я назову своё имя, козёл! Понял?! На могиле напишу! Будь моя воля, я бы собственной рукой вас уничтожал. Ты знаешь, что делали с такими, как ты, в 39-м году? Расстреливали без суда и следствия. Жаль на вас патроны тратить!

У пастарунку Першамайскага РАУС мне давялося цярпець прыніжэньні пад час вобшуку. Капітан Вашкевіч адмовіўся назваць тых міліцыянтаў, што схапілі мяне. І ўсё ж я прачытаў іхнія подпісы на рапарце. Гэта -- малодшы сяржант Ларыёнаў, які душыў мяне за горла і выломваў руку, лейтэнант Марціновіч, што быў за рулём, ст. сяржант Глазкоў -- гэтае ягонае прозьвішча, магчыма, недакладнае.

* * *

Пададзеныя тут вытрымкі -- толькі малая частка тых соцяў пісьмовых сьведчаньняў, якія сабрала грамадская камісія БНФ, утвораная па ініцыятыве В.Быкава пасьля публікацыі Пастановы Вярхоўнага Савету БССР "Аб выніках вывучэньня акалічнасьцяў ... 30 кастр. 1988".

# РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ПАРАНОЙЯ

**Шмат гадоў з цікавасцю чытаю прозу Савелія Паўлава. У пачатку яго творчага шляху часам узнікала пытанне: у якім жанры працуе аўтар? Публіцыстыка ў яе чыстым выглядзе? Не. Памфлетыстыка? Мастацкая проза?**

І.Шамякін.

У канцы XX стагоддзя у Вашынгтоне запрыкмечана дзівосная з'ява. Паранойя, як і парапсіхалогія, набыла ярка выражаную тэндэнцыю усё часцей пакідаць сцены шпіталяў і пасяляцца у офісах і кабінетах улады. Заўважана таксама, што яна услед за парапсіхалогіяй мае схільнасць да мімікрыі з фізіялагічнага у сацыяльна-палітычны стан.

З кнігі Савелія Паулава "Імперская паранойя" /С.Паулаў -- заг. адзьдзела агітацыі і прапаганды ЦК КПБ/.

Паранойя -- психическое заболевание, характеризующееся стойким систематизированным бредом.

/Советский Энциклопедический Словарь./

Закрытыя ідэалагічныя інструктажы, сакрэтныя цыркуляры і "ориентировки" для службовага карыстаньня -- можна падумаць, што нашыя рэспубліканскія ідэолагі зьяўляюцца не прадстаўнікамі **к і р у ю ч а й** партыі, а падпольшчыкамі, якія у сьмяротна небясьпечных варунках перабудовы вымушаныя дзейнічаць нелегальна. Ім сапраўды не пазайздросьціш, бо на гэты раз падпольле павінна разьлічваць толькі на уласныя сілы -- чакаць дапамогі з "Вялікай зямлі" не выпадае.

Тут будзе дарэчы прывесьці выказваньне члена Палітбюро, сакратара ЦК КПСС В.Мядзьведзева, апублікаванае у часопісе "Коммунист" №17 за 1988 год: "У адносінах з грамадскімі арганізацыямі партыя паважае іх права на уласнае меркаваньне, на адстойваньне уласнай пазіцыі, на абарону сваіх інтарэсаў. У апошні час ідзе бурнае разьвіцьцё формаў грамадскай самадзейнасьці нашага насельніцтва, рознага роду арганізацый, нефармальных аб'яднаньняў. У шэрагу рэспублік узьнікае Народны фронт. Усё гэта працэсы заканамерныя, у тым ліку зьвязаныя і з тым, што сістэма грамадскіх арганізацый, якая склалася у мінулым, у пэўнай ступені апынулася зафармалізаванай, а таму у многім не падрыхтаванай да таго, каб выразіць плюралізм меркаваньняў і інтарэсаў людзей. Мы супраць таго, каб гэтыя новыя формы актыўнасьці разглядаць амаль што як небясьпеку для нашага грамадскага ладу -- а такія настроі ёсьць. Гэтыя настроі не адпавядаюць лініі партыі на дэмакратызацыю, публічнасьць, плюралізм".

Пакуль тое, тутэйшыя кіраўнікі усё ніяк не нацешацца з дэтэктыўнае гульні з чорным катом у цёмным пакоі і дагэтуль рассылаюць падрабязныя цыркуляры з грыфам "Для служебного пользования" па выяўленьні беднае жывёлы нават у пустым памяшканьні. Падобных "сакрэтных" цыркуляраў складзена цяпер мноства. Ніжэй мы робім здабыткам публічнасьці толькі адзін з гэтых дакументаў. На нашую думку, самы галоўны. Па сваёй сутнасьці "Ориентировка" зьяўляецца нібы творчай распрацоўкай праграмы, дэкляраванай Нінай Андрэевай. Але прынцып: "Вучань, перавысь свайго настаўніка!" -- вытрыманы тут цьвёрда. Зрэшты, дакумент гаворыць сам за сябе:

Ориентировка
<u>для служебного пользования</u>

О НЕКОТОРЫХ ОСОБЕННОСТЯХ НЫНЕШНЕЙ ОБЩЕСТВЕННО-ПОЛИТИЧЕСКОЙ ОБСТАНОВКИ В РЕСПУБЛИКЕ

В последнее время в республике отмечается активизация групп экстремистского толка. Среди них особо выделяются такие самодеятельные формирования как "Талака", "Тутэйшыя", "Современник" /г. Минск/, "Паходня" /г. Гродно/, "Узгор'е" /г. Витебск/, "Маладзік" /г. Новополоцк/ и другие. Они явочным порядком собирают различные сборища, создают всевозможные "комитеты", провозглашают "декларации", "программы", пытаясь вовлечь в эту сомнительную возню возможно большее количество людей, особенно молодёжи. Такого рода действия часто инспирируются и подогреваются событиями в прибалтийских республиках. В населённых пунктах Белоруссии, расположенных вдоль границы с Литвой и Латвией, отмечается участившийся наплыв эмиссаров, подстрекающих местное население направлять всякого рода протесты, выступать за создание "народного фронта" и т.п. /.../*

При ближайшем рассмотрении этих "программ" складывается впечатление, что они отражают социальные интересы тех слоёв, которые в годы застоя путём "теневой экономики", злоупотреблений, коррупции нажили крупные денежные средства, а ныне стремятся легализовать свои капиталы, направить их в русло частного предпринимательства. /.../

Методы работы экстремистских групп отличаются изощрённостью. На вооружение берутся шантаж, угрозы, подлоги, обман, фальсификация, навешивание оскорбительных ярлыков на людей, оказавшихся на пути амбиций и вожделений экстремистов.

Глубоко противоречит правовым нормам и развивающемуся в нашей стране демократическому процессу уже сама процедура создания организационной структуры так называемого "народного фронта за перестройку и возрождение". Историко-мемориальная комиссия, от имени которой пошла кампания за создание "народного фронта", образовала так называемый "Комитет 58" /по номеру статьи Уголовного кодекса РСФСР, по которой в 30 -- 40-х годах осуществлялись репрессии/. Правление фонда культуры отвергло это предложение. Тем не менее комиссия явочным порядком создала этот комитет, а газета "Літаратура і мастацтва" опубликовала его "программу". /.../

Как показали последующие события, вся возня вокруг "Комитета 58" была откровенным прикрытием экстремистских групп З.Позняка /научный сотрудник Института истории АН БССР/, М.Дубенецкого /пенсионер/, В.Вечёрко /ассистент кафедры белорусского языка пединститута им. Горького/ для достижения далеко идущих целей.

Собравшись 19 октября с.г. в Минском доме кино, группа самозванцев под вывеской "Комитет 58" назвала себя "учредительным съездом Белорусского историко-просветительского общества". Следует заметить, что "делегатов" этого съезда никто не избирал и не делегировал. Они были приглашены по списку из числа наиболее приближённых к экстремистским группам "Талака", "Тутэйшыя". Обманным путём на эту встречу были приглашены и некоторые известные деятели литературы, культуры Белоруссии. /.../

На собрании была создана атмосфера, когда любой намёк на здравый смысл подвергался травле, улюлюканью. Шторм эйфории настолько захлёстывал собравшихся, что они утрачивали

/Працяг на стар. 4/

* Агульны аб'ём "Ориентировки" -- 18 машынапісных старонак. Па зразумелых тэхнічных прычынах мы ня можам прывесьці гэты дакумент цалкам. Тут і далей у купюры трапілі агітацыйныя тэзы пра флагманства Беларусі у перабудове. Скарочаныя таксама фрагменты, якія амаль тэкстуальна паўтараюць "Эвалюцыю палітычнага невуцтва", "Пену на хвалі перабудовы" і іншыя "пены". Заўважым толькі, што "Ориентировка" нашмат больш падрабязная, і на яе тле згаданыя публікацыі выглядаюць нават адносна прыстойна.

